

# Ветразь надзеі

№5, люты
2003 года

Газета Слонімскай суполкі
Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны

## Паланез Агінскага



(Калектыўны верш)

Вецер заныў ад суму па мове.
— Я гавару душою з Табою,
Божа адзіны, аб любай краіне,
Вяртанні дадому са шчырай
слязою.

І чуецца голас Усявышняга
Бога:
— Пакуты твае пачуюць усе,
На музыку іх пакладзі, каб
дарога
Праз сэрца вяла на Радзіму
цябе.

Музыка плаўна плыве над
зямлёю,
Чыстая, светлая, быццам сляза,
Плача, смяецца з ягонай душою,
Перад вачамі Радзіма-краса.

***Гурток «Ветразь надзеі»***


Канал Агінскага ў Слоніме

## Жывеш не вечна чалавек...

У канцы студзеня пад такой назвай члены клуба «Спадчына» праводзілі свята поснай куцці. Аднавілі абрад Сашко П., Музычка В., Буйвіч С., Дуброўскі П. Вядучыя Лукашэвіч А. і Кудзелька С. прадставілі гасцей. Гэта былі сын Янкі Карповіча — Ігар, паэтка Алена Ржэвуская, краязнаўца з Польшчы Ванда Скаўрон і інш. Члены гуртка «Ветразь надзеі» чыталі вершы, прысвечаныя Янку Карповічу, гадавіну з дня смерці якога і сабраліся ўшанаваць прысутныя.

**Мікалай ВЕРАМЕЙЧЫК**

## Куцця нашай памяці

Прыйшла святочная Куцця,
Прынесла момант небыцця.
Усіх, каго няма, успомнім,
Успомнім добрым, светлым промнем.
Не вечна нашае жыццё,
Уводзіць нас у забыццё,
«Жывеш не вечна, чалавек,»
След тут пакінеш свой навек.

**Буйвіч С., Музычка В.**

***Што цікавага чуваць***

Члены гуртака «Ветразь надзеі» наведалі выставу засушаных кветак, якія выдавалі сабою жывыя. Выстава арганізавана Гарлачовай Аксанай Сяргееўнай, настаўніцай-пенсіянеркай, па адрасе, вуліца Брэсцкая, 75, кв. 4. Гэтай падзеі прысвечаны верш Верамейчыка Мікалая **«Другое жыццё кветак».**

*Яны раслі на лузе, на палянцы,*
*Цвілі, ігралі краскі,*
*Было так весела на сонцы,*
*Дарылі кветкі ласкі.*
*І вось прыйшла бабуля,*
*Панесла да сябе дамоў,*
*Кардонам кветкі абгарнула,*
*Засохлі, ды іграюць зноў.*
*Рамонкі, ружы і пралескі*
*Глядзяць вачыма ў акно,*
*А недзе шэпчуцца ўзлескі —*
*У кветак іншае жыццё.*

Гурток «Ветразь надзеі» наведваюць вучні, але разам з імі вершы пішуць і іх бацькі, яны актыўна дапамагаюць дзейнасці паэтычнага аб'яднання. Прапануем верш маці Верамейчыка Колі Верамейчык Раісы Міхайлаўны: **«Останься рядом»**

*Плывёт за окнами туман,*
*Туман белесый,*
*Туман, как наших чувств обман,*
*Как наши слёзы.*
*Туман за окнами густой*
*Ты не окинешь взглядом.*
*Не уходи в туман, постой,*
*Останься рядом.*

## Чаму я люблю беларускую мову.

Я вельмі люблю адзіноту, люблю глядзець вечарам на высокае неба, на зоркі-агеньчыкі, яны мне здаюцца роднымі і блізкімі людзьмі. Чамусьці зоркі для мяне — гэта як беларусы, сумныя і невясёлыя. Дый сама беларуская мова мне здаецца сумнай, што выклікае бязрадасны настрой. І амаль усе мае вершы прасякнуты гэтым настроем.

Я нарадзіўся ў беларускім горадзе Гомелі. А вершы навучыўся складаць толькі на беларускай мове ў гуртку «Ветразь надзеі» з дапамогай паэткі Трафімчык Т.У.

## Беларусы

*Беларусы, жывіце,*
*Уперад ідзіце*
*У шлях жыцця*
*І добрага сэрца.*

*Ідзіце туды,*
*Дзе кветка расце*
*І, хоць у муры,*
*Заўсёды цвіце.*

*Беларусы, існуйце!*
*Моц Беларусі трымайце,*
*Душу з надзеяю майце.*

*Ваша надзея —*
*Усюды завея.*
*Ды жыццё будзе жыць!*
*Беларусы! Вас не забыць.*

**Павел ДУБРОЎСКІ**

# Чаму я размаўляю па-беларуску...

***Васіль Супрун, паэт, краязнаўца.***

Размаўляю па-беларуску, бо я беларус, дый іншай мовы я проста не ведаю так дасканала, як — родную беларускую.

***Таццяна Трафімчык, старшыня Слонімскай суполкі ТБМ.***

Родная мова мне дадзена Богам, інакш не назавеш той цуд любові, які творыцца ва мне ад зносін з родным словам. А тое, што наша мова ад Бога, сведчыць той факт, што, каб гаварыць на гэтай мове ў рускім асяроддзі, трэба ахвяраваць сябе на прыніжэнне абыватэляў, якія лічаць чалавека разумова абмежаваным, калі ён гаворыць па-вясковаму, па-беларуску. Усякае прыніжэнне і цярпенне — ад Бога, бо Хрыстос, Божы Сын, быў прыніжаны гэтак, як ніхто. Вось чаму, каб жыццё нашае мовы было доўгім, трэба не баяцца пераступіць праз гонар. Тады вы больш набудзеце, чым страціце. Паверце мне з жыццёвага вопыту. Па-першае, вы адчуеце, што ўсё стала на сваё месца: справядлівасць, ваша душа, спакой у ёй. Па-другое, вы набудзеце такіх сяброў, аб якіх і не марылі, гэта будуць аднадумцы, нават аднадушныя з вамі людзі.

Чаму я размаўляю па-беларуску? Я шмат выпакутавала за гэтую мову, шмат даведалася аб ёй праз адданае служэнне роднаму слову ўсё сваё свядомае жыццё. Таму я абавязана гаварыць на гэтай мове ўсюды, каб даваць сілу і ўпэўненасць у сябе іншым беларусам, хто зняверыўся.

***Алег Шэлестаў, кіраўнік ТМА «Вятрак».***

Размаўляю па-беларуску, таму што, у першую чаргу, я беларус, і павінен размаўляць на роднай мове, мове нашых продкаў. Але гэта не азначае, што я супраць іншых моў (напрыклад, рускай). Вы можаце размаўляць на той мове, на якой вам зручней, але ведаць і не забываць сваю родную, беларускую мову.

***Міхась Варанец, старшыня арганізацыі «Воля да развіцця».***

Гавару па-беларуску, бо гэта ўвайшло ў звычку, прывык да гэтай мовы. А пачынаў яе «асвойваць» у перыяд нацыянальнага адраджэння, якое пачалося ў 90-ыя гады. Тады авалоданне беларускай мовай для мяне было справай прынцыпу і самасцверджання.

***Паша Дуброўскі, гурток «Ветразь надзеі».***

Я люблю беларускую мову, бо яна для мяне, як маці, якая выхоўвае і дае магчымасць стаць вялікім патрыётам. Беларуская мова — гэта мая спадчына, бацькаўшчына. Беларуская мова для мяне, як агеньчык на роднай зямлі.

*Сябра! Калі ты хочаш падзяліцца з чытачамі, чаму ты размаўляеш па-беларуску, то мы чакаем тваіх допісаў на адрас рэдакцыі.*

# Верныя сыны Бацькаўшчыны
## *Янка Карповіч*

### Родная мова

*Боская, матчына, родная мова,*
*Крык твой ад сэрца нясецца.*
*Ты ў загоне, роднае слова,*
*Болем душа скалыхнецца.*
*І ці ж не грэшна табе, беларусу,*
*І ці ж не сорамна, браце,*
*Грэбаваць роднаю, матчынай моваю,*
*Гутарыць ёю стыдацца?*
*Дык не цурайся ты роднае мовы*
*І не зракайся Радзімы,*
*Будзь жа ты сынам гэтага слова,*
*Верным і самым любімым!*

### Малітва

*Край ад варожасці, звады,*
*Пошасці, гвалту і здрады,*
*Божа, навек захіні!*
*Родную матчыну мову,*

*Спадчыны нашай аснову,*
*Божа, заўжды барані!*
*Божа, вярні нам паноў*
*Веру, надзею, любоў.*

### Мая Бацькаўшчына

*Мой родны кут, бацькоўскі край,*
*Мая любімая краіна, —*
*Душы маёй прытулак, рай,*
*Ты маё сэрца палавініш.*

*Усё тут міла, люба, шчыра:*
*Ад галасоў сівых вякоў*
*Да птушак, што ляцяць у вырай,*
*Пяе мне моваю бацькоў.*

## *Белая Русь*

*Памяці Янкі Карповіча*

Тут снег ляціць карункамі,
Прыгожымі малюнкамі,
У белай фарбе дол.
Снег, свеціцца вясёлкамі,
Тваімі шэпча зёлкамі,
Душа Твая наўкол.

Яна зямлю прыбрала
І снегам абласкала
Любімы Твой куток.
Апошнія вандроўкі...
І снег — Твае абноўкі!
Цябе чакае Бог!

Свой кут, доўна абжыты,
«Жытнёвы і блакітны»,
Пакінеш ты, душа!
І будзе «чыстай-чыстай»
У саване іскрыстым,
Ў снягах Твая зямля.

Ты летам нарадзіўся,
У кветкі ўлюбіўся,
Ды бель зімы наўкол.
Яна стрымае сэрца,
Што ў ростані заб'ецца,
І прымарозіць боль.

**Таццяна ТРАФІМЧЫК**

## *Калінка ў снезе*

*Памяці Янкі Карповіча*

Гарыць чырвоная калінка
За шэрым пахмурным акном,
Пустая, мокрая галінка
У сэрцы снежаньскім агнём.
Калінка, можа ты замерзла?
Сарву і занясу дамоў;
Не рукі, а душа прынесла
Цябе з заснежаных палёў.

**Коля ВЕРАМЕЙЧЫК**

*Таццяна Трафімчык*

## На лузе

Кветкавы луг, травяністы,
Слаўна галоўкі кіўнуць
Зёлак, кятоў прамяністых,
Што суцяшэнне ліюць.

Лашчыць душу іх краіна,
Царства ўладарных лістоў,
Тут паблукаю, і згіне
Боль у гэтым свеце палёў.

Боль пабрыдзе і прысядзе
Ля заквітнелай вады,
Сэрца плыве ў паглядзе,
Ў хвалях мурожнай травы.

Водар, танчэйшы, трывожны,
Штось нагадаў для душы.
Продкаў душа тут, на пожні,
Кроў на пракосах дружыць.

Біцца параненай птушкай,
Разам з дзядамі цярпець,
Кроў на згвалтованых душах.
Тут ім, на лузе, святлець.

## Дзяды ў Слоніме

*Ўжо колькі дзён цямнее неба,*
*І ноччу дзень назваць нам трэба,*
*Да нас спускаюцца дзяды.*
*Таму і хмурая прырода,*
*І час такі ў пана-года,*
*Дзядоў відны наўсцяж сляды.*

*Яны на могілках Ружанскіх*
*Пільнуюць звычаяў паганскіх:*
*Ці ўжо прабраныя клады?*
*Ідуць памёрлыя па сцежках*
*Душой спачынуць на ўзмежках,*
*Зямля хмурнее на дзяды.*

*А дзень нагадвае кананне,*
*Ледзь сонца выгляне і звяне,*
*Прыдушаць хмары нематой.*
*Чарнее неба, яно страшыць,*
*Душа не знае, што то значыць,*
*Адкуль трывожны непакой.*

*Ды ёсць святло, яно жыве,*
*Яго нясуць у душах ўсе,*
*Жыццё хто цепліць у сабе.*
*Запалім свечку дабрыні,*
*Каб пасвятлела на зямлі*
*З дзядамі ў восеньскай журбе.*

## *Андрэй ЛУКАШЭВІЧ*
## РАБІНА

Сяджу ў хаце ля акна,
А за акном стаіць яна,
Гарыць, як вогнішча, уся
Рабіна сціплая мая.

І вераб'і і снегіры
Прымаюць ад яе дары,
Усю галодную зіму
Бароніць іх ад голаду.

І вось пасыпаў першы снег,
Пачуўся гучны дзетак смех.
Адна рабіначка стаіць,
А на галінках снег ляжыць.

Стаіць рабіна ў холадзе
Сярод вясёлай моладзі,
І помніцца ёй лета,
Шмат сонечнага свету.

## *Павел ДУБРОЎСКІ*
## ВОСЕНЬ

Думала восень,
Думала-гадала,
У цёплы вырай
Птушка адлятала.

Лісточкі на дрэве
Тужліва сядзелі
І неўзабаве
Ціха абляцелі.

Сонейка маё
Так ужо не грэе,
Не можа яно!
Бо яно марнее.

Як рэчачка тая
Блакіту вачыма,
Душа не іграе,
І боль незлячымы.

А сэрца таміла
Ад восеньскіх жаляў,
Ўсё восень гадала
У зоркавых хвалях.



# Тэст «Сапраўднае каханне ці часовая закаханасць?»

***1. Калі ты ідзеш на спатканне, то...***
а) апранаешся так, каб спадабацца яму (ёй) — 3 балы
б) апранаешся так, як падабаецца табе — 2 балы
в) апранаеш свой самы навы ўбор — 1 бал

***2. Каханы (-ая) падарыў (-ла) табе касету, ты...***
а) з незадавальненнем скажаш, што ў цябе ўжо ёсць такая — 1 бал
б) можаш пры неабходнасці абмяняць яе на іншую — 2 балы
в) усклікнеш: «Я так даўно марыла (-ў) пра такую!» — 3 балы

***3. Калі ты не падабаешся бацькам свайго каханага (-ай), то ты...***
а) задорваеш іх кветкамі, духамі, іншымі падарункамі — 3 балы
б) вырашаеш адкрыта пагаварыць з імі аб прычынах такой антыпатыі — 1 бал
в) з неахвотай, але будзеш лічыцца з іх патрабаваннямі — 2 балы

***4. Вам прыйшлося правесці вечар з бацькамі, і...***
а) ты лічыш вечар згубленым — 1 бал
б) для цябе гэта сапраўдныя пакуты — 2 балы
в) ты не маеш нічога супраць — 3 балы

***5. Твой каханы (-ая) абяцаў (-ла) прыйсці, а не прыйшоў (-ла), ты...***
а) ліеш слёзы — 2 балы
б) цэлы дзень чакаеш яго (яе) званка — 3 балы
в) не перажываеш, бавіш час так, як табе хочацца, напрыклад, ідзеш у госці ці на дыскатэку — 1 бал

***6. Табе падабаецца папулярная музыка, а тваёй палове — класічная, ты...***
а) імкнешся паўплываць на яго (яе) захапленні — 1 бал
б) застаешся пры сваіх інтарэсах, а ён (яна) — пры сваіх — 2 балы
в) пачынаеш цікавіцца класічнай музыкай — 3 балы

***7. Табе не падабаюцца некаторыя сябры твайго каханага (-ай), ты...***
а) імкнешся як мага радзей з імі бачыцца — 2 балы
б) імкнешся зрабіць так, каб ён (яна) радзей з імі бачыліся — 1 бал
в) змірышся з гэтымі людзьмі — 3 балы

***8. Ты прызнаешся ў каханні, калі...***
а) хочаш, каб ён (яна) штосьці для цябе зрабіў (-ла) — 1 бал
б) вельмі часта з якой-небудзь падставай і без яе — 2 балы
в) у тыя моманты, калі адчуваеш, што каханы (-ая) табе вельмі блізкі і дарагі — 3 балы

***9. Ты хочаш, каб табе дарылі...***
а) твае любімыя кветкі ці іншыя любімыя рэчы — 2 балы

б) раскошныя, экзатычныя падарункі — 1 бал
в) што заўгодна, галоўнае не падарунак, а ўвага — 3 балы

***10. Табе ў рукі трапіў ліст, адрасаваны каханаму (-ай). Канверт не раскрыты, ты...***
а) аддаеш канверт, не раскрыўшы яго — 3 балы
б) прачытаўшы пісьмо, бо ў вас няма сакрэтаў адно ад аднаго — 1 бал
в) не будзеш чытаць, але папросіш расказаць аб яго змесце — 2 балы

***Цяпер падвядзем вынікі.***

*Калі колькасць балаў меншая за 15, то ты сапраўды маеш нейкае пачуццё, але гэта хутчэй часовая закаханасць, а не трывалае і доўгае каханне, бо ў адносінах са сваёй другой паловай ты амаль усю ўвагу аддаеш толькі ўласнай персоне.*

*Калі колькасць балаў вагаецца ад 15 да 20, то ты сустрэла (-ў) чалавека, які заняў важнае месца ў тваім жыцці.*

*Паказчык больш за 20 балаў сведчыць пра тое, што твая мара здзейснілася, ты сустрэла (-ў) сапраўднае каханне. Але будзь уважлівай (-ым): імкненне да гармоніі можа часам загубіць тваю ўласную годнасць.*

***Смяшынкі***

На экзамене прафесар пытае ў студэнта:
— Вам як лепш, задаць адно цяжкае пытанне ці два лёгкія?
— Адно цяжкае, — адказвае студэнт.
— Дзе ўпершыню на Зямлі з'явіліся малпы?
— На вуліцы Леніна!
— Чаму?
А гэта ўжо другое пытанне, прафесар...

Касірка ніяк не можа знайсці дробязь, каб даць рэшту. Потым яна кажа пакупніку, хлопчыку гадоў дзесяці:
— Дай мне пяць рублёў, а я табе сто.
— А калі я дам дзесяць рублёў, вы дасцё мне дзвесце?

Прыходзіць Вовачка да таты і гаворыць:
— Леначка сказала, што будзе сябраваць са мной, калі ў нас будзе 600-ты «мерс» і трохпавярховы дом.
— Вовачка, «мерс» я куплю, але што мне з-за тваёй Леначкі два паверхі ў доме зносіць?

Ветразь
надзеі
**Рэдакцыйная калегія:** Трафімчык Т. **Набор, дызайн і вёрстка:** Алег ШЭЛЕСТАЎ
**Адрас:** 231800, г.Слонім, вул.Брэсцкая, 103/1, кв.61
***Нумар зверстаны і выдадзены пры тэхнічнай падтрымцы ТМА «ВЯТРАК».***
Наклад — 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.